# Голас Радзімы

№ 16 (2002)
16 красавіка 1987 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.





Леанід КІСЯЛЕЎСКІ (на здымку)—рэктар Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна. Свой жыццёвы шлях ён пачынаў рабочым. Атрымаўшы вышэйшую адукацыю, стаў займацца навуковымі даследаваннямі і дасягнуў на гэтай ніве значных поспехаў. Цяпер ён вядомы ў рэспубліцы вучоны-фізік, акадэмік і член-карэспандэнт Акадэміі навук БССР.

(Інтэрв'ю з Л. Кісялеўскім змешчана на 3-й стар.)

Фота С. КРЫЦКАГА.

# СССР ГАТОВЫ НА САМЫЯ РАШУЧЫЯ КРОКІ

**На працягу трох дзён, з 9 па 11 красавіка, Генеральны сакратар ЦК КПСС М. С. Гарбачоў знаходзіўся з афіцыяльным візітам у Чэхаславакіі.**

**У час сустрэч М. С. Гарбачова з Генеральным сакратаром ЦК КПЧ, Прэзідэнтам ЧССР Г. Гусакам адбыўся абмен думкамі па актуальных пытаннях дзейнасці абедзвюх партый, вузлавых момантаў развіцця савецка-чэхаславацкіх адносін. Бакі канстатавалі агульнасць падыходаў і ацэнак як ва ўнутраных, так і ў міжнародных справах.**

**Цэнтральнай падзеяй візіту стаў мітынг чэхаславацка-савецкай дружбы, які адбыўся ў пражскім Палацы культуры. З вялікай прамовай на ім выступіў Генеральны сакратар ЦК КПСС. Публікуем частку прамовы М. С. Гарбачова, у якой ідзе гаворка пра міжнародныя праблемы.**

Паважаныя таварышы! Час, у які мы жывём, задае нам складаныя, бадай, нават галаваломныя пытанні, якія датычаць лёсу свету, будучыні чалавецтва.

Узаемазалежнасць цяперашняга свету такая, што ўсе народы падобны да звязкі альпіністаў на горным схіле. Яны могуць або разам узбірацца далей, да вяршыні, або разам сарвацца ў бездань. А каб гэтага не здарылася, палітычным дзеячам трэба ўзняцца над вузказразуметымі інтарэсамі, усвядоміць увесь драматызм сучаснай сітуацыі. Вось чаму так востра стаіць пытанне аб неабходнасці новага палітычнага мыслення ў ядзерную эру. Толькі яно здольна прывесці ўсіх удзельнікаў міжнародных адносін да прыняцця неадкладных мер па прадухіленню ядзернай катастрофы, што пагражае гібеллю чалавецтва.

Нельга сказаць, каб ідэя новага мыслення не знаходзіла ніякага водгуку. Наадварот, у свеце шырыцца колькасць людзей, якія яе падзяляюць. У тым ліку сярод вучоных, урачоў, прадстаўнікоў многіх іншых прафесій, творчай інтэлігенцыі, у чым можна было лішні раз пераканацца ў час прайшоўшага нядаўна ў Маскве міжнароднага форуму «За бяз'ядзерны свет, за выжыванне чалавецтва».

У тых або іншых пытаннях бачым мы праяўленне новага падыходу да міжнародных спраў і з боку рада відных палітычных і дзяржаўных дзеячаў Захаду. Але гэта толькі першыя парасткі. На Захадзе яшчэ моцныя старыя стэрэатыпы, якія накладваюць свой адбітак на знешнюю палітыку. Па-сапраўднаму гаварыць аб тым, што новае палітычнае мысленне ператварылася ў рэальную сілу, можна будзе толькі тады, калі справа раззбраення будзе зрушана, нарэшце, з мёртвага пункту.

Ці можна на гэта спадзявацца, якія сёння існуюць перспектывы?

Адкажу адразу: надзеі ёсць, ваенную небяспеку можна знізіць. Гэта наша перакананне грунтуецца як на растучым у свеце разуменні гібельных для чалавецтва вынікаў ядзернага сутыкнення, так і на адкрыўшыхся ў Рэйк'явіку магчымасцях дасягнення дагаворанасці аб кардынальным скарачэнні і ліквідацыі найбольш разбуральных відаў ядзерных узбраенняў.

Савецкі Саюз адказна заяўляе аб сваім імкненні шукаць узаемапрымальныя развязкі па ўсяму комплексу пытанняў ядзернага раззбраення. Карэннай праблемай застаецца радыкальнае скарачэнне стратэгічных наступальных узбраенняў. Мы, як вядома, гатовы ў гэтых адносінах на самыя рашучыя крокі — як на 50-працэнтнае іх скарачэнне на працягу пяці гадоў, так і на поўную ліквідацыю на працягу дзесяці гадоў. Пры той, натуральна, абавязковай умове, што дагавор па ПРА будзе строга выконвацца, што не пачнецца гонка ўзбраенняў у космасе.

Імкнучыся зрабіць, нарэшце, першы, і таму надзвычай важны, крок на шляху раззбраення, мы прапанавалі дагаварыцца па ракетах сярэдняй дальнасці. Улічылі мы пры гэтым і голас сусветнай грамадскасці, і прыхільнасць да поўнага ачышчэння Еўропы ад гэтых ракет, якая выказваецца нашымі заходнімі партнёрамі. Але атрымалася парадаксальная сітуацыя: некаторыя палітыкі, а то і ўрады, цяпер адхрышчваюцца ад свайго ж «нулявога варыянта», як ад нячыстай сілы, спрабуюць ускладніць вырашэнне пытання па ракетах сярэдняй дальнасці рознымі агаворкамі і ўвязкамі.

На Захадзе цяпер многа пішуць і гавораць аб праблеме ракет аператыўна-тактычнага прызначэння. Мы [illegible]ы канструктыўна вырашы[illegible] і гэту праблему, але зрабіць гэта так, каб не ўскладняць дасягненне дагаворанасці па цэнтральнаму сёння пытанню аб ракетах сярэдняй дальнасці.

Каб аблягчыць н[illegible]кладнае заключэнне пагадн[illegible] па ракетах сярэдняй дальнасці ў Еўропе, мы прапануем пачаць абмеркаванне пытання аб скарачэнні і наступнай затым ліквідацыі ракет з дальнасцю ад 500 да 1 000 кіламетраў, дыслацыраваных на еўрапейскім кантыненце, не ўвязваючы з гэтым ход і зыход вырашэння праблемы РСД.

На перыяд перагавораў бакі ўзялі б абавязацельствы не нарошчваць колькасць аператыўна-тактычных ракет. Падкрэсліваю: мы за тое, каб весці справу да радыкальнага скарачэння і ў канчатковым выніку поўнай ліквідацыі аператыўна-тактычных ракет у Еўропе, лічым непатрэбным закладваць у будучую дагаворанасць усякага роду «допускі» для іх нарошчвання і ўдасканалення.

Пасля падпісання пагаднення аб РСД і незалежна ад ходу абмеркавання пытання аб аператыўна-тактычных ракетах Савецкі Саюз, па ўзгадненню з урадамі ЧССР і ГДР, выведзе з гэтых краін ракеты, якія былі размешчаны там у якасці мер у адказ на разгортванне «Першынгаў-2» і крылатых ракет у Заходняй Еўропе.

Рэалізацыя дагаворанасці аб аператыўна-тактычных ракетах, натуральна, ажыццяўлялася б пад строгім кантролем. Гэтак жа, як ракет сярэдняй дальнасці і стратэгічных ядзерных узбраенняў.

Раз ужо размова ідзе аб скарачэнні, а тым больш ліквідацыі цэлых класаў ядзерных узбраенняў у Еўропе, якасна новае значэнне набываюць пытанні праверкі захавання будучых пагадненняў. Кантроль у гэтых умовах становіцца адным з важнейшых сродкаў забеспячэння бяспекі. Вось чаму мы будзем выступаць за распрацоўку самых строгіх мер у гэтай галіне, маючы на ўвазе, зразумела, не кантроль дзеля кантролю, а праверку выканання прынятых бакамі абавязацельстваў на ўсіх стадыях ядзернага раззбраення.

Адпаведным кантролем, у тым ліку з прымяненнем інспекцый на месцах, павінны быць ахоплены ракеты і пускавыя ўстаноўкі, што застаюцца пасля скарачэнняў, прычым як ракеты, якія знаходзяцца ў баявым саставе, так і на ўсіх іншых аб'ектах: выпрабавальных палігонах, заводах-вытворцах, вучэбных цэнтрах і г. д. Допуск інспектараў павінен быць забяспечан і на ваенныя базы другога боку на тэрыторыях трэціх краін. Гэта неабходна, каб атрымаць поўную ўпэўненасць у тым, што пагадненне строга выконваецца.

Яшчэ адно наспеўшае пытанне, прама звязанае з еўрапейскай бяспекай,— сканцэнтраванне ў гэтым рэгіёне велізарнага патэнцыялу ўзброеных сіл і звычайных узбраенняў.

Вядома, для Еўропы, як і для ўсяго свету ў цэлым, ліквідацыя ядзернай зброі — стратэгічнай, сярэдняй дальнасці і аператыўна-тактычнай — задача прыярытэтная. З гэтым наўрад ці хто-небудзь будзе спрачацца. Аднак давайце паставім пытанне так: ці адпавядае ўяўленню аб бяспечным міры велізарная канцэнтрацыя на кантыненце тактычнай ядзернай і няядзернай зброі, а таксама процістаячых узброеных сіл? Думаю, адказ на гэта пытанне ясны.

На жаль, пакуль не зроблена абсалютна нічога, каб выправіць узнікшае тут крайне нездавальняючае становішча. Трэба крута змяніць сітуацыю шляхам прыняцця мер па скарачэнню і ў канчатковым выніку ліквідацыі тактычнай ядзернай зброі, па радыкальнаму скарачэнню ўзброеных сіл і звычайных узбраенняў, каб выключыць магчымасць раптоўнага нападу.

Буйным крокам у гэтым напрамку была б рэалізацыя Будапешцкай праграмы краін Варшаўскага Дагавора, у якой пытанні скарачэння ўзброеных сіл і звычайных узбраенняў прапануецца вырашаць у комплексе з тактычнымі ракетамі, ударнай авіяцыяй, атамнай артылерыяй і іншымі тактычнымі ядзернымі сродкамі. Неабходнасць такога сумеснага разгляду дыктуецца тым, што тактычныя ядзерныя ўзбраенні ў сваёй большасці з'яўляюцца зброяй «двайнога прызначэння», гэта значыць могуць несці як звычайныя, так і ядзерныя зарады.

Для скарачэння ўзброеных сіл і ўзбраенняў у Еўропе патрэбны намаганні ўсіх еўрапейскіх дзяржаў, ЗША і Канады. Цяпер у Вене праводзяцца кансультацыі паміж краінамі Варшаўскага Дагавора і НАТО. Узнікае, аднак, пытанне: ці не настаў час сабрацца там усім міністрам замежных спраў дзяржаў — удзельніц Нарады па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе і прыняць рашэнне аб пачатку буйнамаштабных перагавораў у мэтах радыкальнага скарачэння тактычнай ядзернай зброі, узброеных сіл і звычайных узбраенняў?

На такіх перагаворах можна было б абмеркаваць і рад першапачатковых мер, звязаных з паніжэннем ваеннага процістаяння і прадухіленнем пагрозы раптоўнага нападу, а таксама ўзаемным вывадам з зоны непасрэднага сутыкнення двух ваенных саюзаў найбольш небяспечных, наступальных відаў узбраенняў.

Канчатковай мэтай гэтых перагавораў былі б буйныя скарачэнні ўзброеных сіл і ўзбраенняў з устанаўленнем міжнароднага кантролю і прымяненнем інспекцый на месцах. Вопыт выпрацоўкі магчымых мер дала мінулагодняя канферэнцыя ў Стакгольме.

Зразумела, запатрабаваўся б і абмен адпаведнымі данымі аб узброеных сілах і ўзбраеннях СССР, ЗША і іншых дзяржаў гэтага рэгіёна.

З боку Захаду гавораць аб няроўнасці, дысбалансе. Вядома, ва ўзброеных сілах абодвух бакоў у Еўропе ёсць асіметрыя, абумоўленая гістарычнымі, геаграфічнымі і іншымі фактарамі. Мы за ліквідацыю ўзнікшай у якіх-небудзь элементах няроўнасці, але не за кошт нарошчвання ў адстаўшага, а за кошт скарачэння ў таго, хто аказаўся наперадзе.

Працэс паніжэння ваеннага процістаяння ў Еўропе мы бачым паэтапным пры захаванні на кожным этапе раўнавагі на ўзроўні разумнай дастатковасці. Такія меры далі б магчымасць зрушыць усю махіну накопленых у Еўропе праблем узброеных сіл і ўзбраенняў. Цяпер ёсць сапраўды унікальны шанц і было б недаравальна яго ўпусціць.

Мэтам умацавання еўрапейскай бяспекі садзейнічалі б і такія меры, як стварэнне бяз'ядзерных зон, зон, свабодных ад хімічнай зброі. Хачу заявіць, што мы падтрымліваем зварот урадаў ГДР і ЧССР да ўрада ФРГ з прапановай аб стварэнні бяз'ядзернага калідора ў Цэнтральн[illegible] [illegible]ўропе. Як вядома, уклад [illegible] распрацоўку ідэй такога калідора ўнесла і сацыял-дэмакратычная партыя Германіі.

Адводу з гэтай зоны падлягалі б: усе ядзерныя боепрыпасы, [illegible]лючаючы ядзерныя міны, [illegible]ратыўна-тактычныя і тактычныя ракеты, атамная артылерыя, самалёты-носьбіты ўдарнай тактычнай авіяцыі, а таксама зенітна-ракетныя комплексы, здольныя прымяняць ядзерную зброю. Сярод гэтых сродкаў значная частка — сродкі так званага «двайнога прызначэння».

Са свайго боку мы гатовы вывесці з такога калідора ўсе савецкія ядзерныя сродкі. Гатовы гарантаваць і паважаць бяз'ядзерны статус гэтай зоны. Зразумела, дагаворанасць аб такім калідоры павінна прадугледжваць, што на баку НАТО ў прапанаваным урадамі ГДР і ЧССР калідоры не будзе ядзернай зброі.

Нам уяўляецца, што вялікае значэнне мела б рэалізацыя прапаноў Балгарыі, Румыніі, Грэцыі аб зоне, свабоднай ад ядзернай і хімічнай зброі на Балканах. Заслугоўваюць увагі і падтрымкі актыўная пазіцыя Польшчы ў пытаннях павышэння давер'я на еўрапейскім кантыненце, а таксама прапанова Фінляндыі і іншых краін Паўночнай Еўропы аб бяз'ядзернай зоне ў гэтым раёне.

І яшчэ аб адным далёка не малаважным пытанні — забароне хімічнай зброі. Мы паслядоўна выступаем за хутчэйшую — ужо ў гэтым годзе — распрацоўку адпаведнай міжнароднай канвенцыі, вядзём актыўныя наконт гэтага перагаворы. Магу паведаміць, што Савецкім Саюзам спынена вытворчасць хімічнай зброі. Іншыя краіны Варшаўскага Дагавора, як вядома, ніколі яе не выраблялі і не мелі на сваёй тэрыторыі. СССР не мае хімічнай зброі за межамі сваіх граніц, а што датычыць яе запасаў, то хацеў бы інфармаваць, што ў нас пачата будаўніцтва спецыяльнага прадпрыемства па іх знішчэнню. Увод у строй такога прадпрыемства дазволіць хутка ажыццявіць працэс хімічнага раззбраення пасля заключэння міжнароднай канвенцыі.

Вяртаючыся да праблем ядзернага раззбраення, хачу сказаць, што з іх найбольш блізкая цяпер да магчымага вырашэння праблема ракет сярэдняй дальнасці ў Еўропе. У свеце множацца заклікі да ЗША пайсці на гэты першы, сапраўдны буйны крок у галіне раззбраення і садзейнічаць тым самым стварэнню прынцыпова новага клімату ўзаемаразумення паміж Захадам і Усходам.

Мы лічым фактарам вялікай палітычнай важнасці, што ў карысць вырашэння праблем еўраракет узвысілі свой голас Грэцыя, Галандыя, Іспанія, Італія, Фінляндыя, многія іншыя еўрапейскія краіны.

Мы запрашаем Парыж, Лондан, Бон са свайго боку садзейнічаць вызваленню Еўропы ад ядзерных ракет сярэдняй дальнасці, перайсці, нарэшце, да ядзернага раззбраення.

Ды і дзе ж, як не ў Еўропе, пара прабіваць дарогу новаму палітычнаму мысленню!

Дазвольце мне ў сувязі з гэтым сказаць аб ролі Еўропы ў сучасным свеце. Вельмі ж дарэчы падзяліцца думкамі наконт гэтага іменна тут, у Чэхаславакіі, дзе размешчан геаграфічны цэнтр Еўропы і ёсць нават камень, які сімвалізуе гэты пункт.

Мы надаём першараднае значэнне еўрапейскаму напрамку нашай знешняй палітыкі. Чаму так? Перш за ўсё — нашы народы жывуць на гэтым кантыненце, з'яўляюцца разам з іншымі законнымі наследнікамі ўзнікшай тут цывілізацыі, уносяць свой неад'емны ўклад у яе развіццё.

Сацыялізм абазначыў глыбокі паварот у шматвяковай гісторыі і гэтай часткі свету. Вехамі тут здаўна былі войны. Разгром фашызму і перамога сацыялістычных рэвалюцый ва ўсходнееўрапейскіх краінах стварылі новую сітуацыю на кантыненце — тут склалася магутная сіла, якая паставіла на мэце спыніць бясконцы ланцуг узброеных канфліктаў. Іменна сацыялізму Еўропа абавязана тым, што вось ужо пяты дзесятак гадоў яе народы не ведаюць войнаў.

Мы і цяпер рашуча выступаем супраць падзелу кантынента на процістаячыя ваенныя блокі, накаплення тут арсеналаў зброі, супраць усяго, што з'яўляецца крыніцай ваеннай пагрозы.

У святле новага мыслення мы ўнеслі ідэю «агульнаеўрапейскага дома». Гэта — не прыгожая фантазія, а вынік сур'ёзнага аналізу сітуацыі на кантыненце. Паняцце «агульнаеўрапейскі дом» азначае перш за ўсё прызнанне пэўнай цэласнасці, хоць гутарка ідзе аб дзяржавах, якія належаць да розных сацыяльных сістэм і ўваходзяць у процілеглыя ваенна-палітычныя блокі. Яно спалучае ў сабе наспеўшыя праблемы з наяўнасцю рэальных магчымасцей іх вырашэння.

Пры высокай шчыльнасці насельніцтва і ўзроўні ўрбанізацыі Еўропа перанасычана зброяй, у ёй процістаяць адна адной трохмільённыя арміі. Нават «звычайная» вайна была б тут згубнай. Не толькі таму, што «звычайная» зброя цяпер на многа парадкаў больш разбуральная, чым тая, якая прымянялася ў другой сусветнай вайне. Але і таму, што на яе тэрыторыі каля 200 блокаў на атамных электрастанцыях, разгалінаваная сетка магутных хімічных заводаў, паражэнне якіх зрабіла б кантынент непрыгодным для жыцця.

(Заканчэнне на 4-й стар.)

# І. ГОРАД ЭНЕРГЕТЫКАЎ

**Лукомская электрастанцыя — самая буйная ў Беларускай энергетычнай сістэме. Размешчана яна ў Чашніцкім раёне Віцебскай вобласці каля Лукомскага возера. З 1969 года, калі даў ток першы энергаблок станцыі, тут выпрацавана ўжо больш за дзвесце мільярдаў кілават-гадзін электраэнергіі.**

**Разам са станцыяй рос і развіваўся горад Новалукомль, дзе жывуць энергетыкі. Ён многім падобны да іншых маладых гарадоў нашай рэспублікі — Светлагорска, Салігорска, Наваполацка. Новалукомль такі ж сучасны, чысты і ўтульны. Горад мае развітую сацыяльна-культурную сферу.**

**На супрацьлеглым ад станцыі беразе возера, у маляўнічым сасновым бары, для энергетыкаў пабудаваны санаторый-прафілакторый. Ён нездарма карыстаецца папулярнасцю сярод рабочых. Тут можна не толькі добра адпачыць, але і прайсці курс прафілактычнага лячэння. Пуцёўка каштуе 156 рублёў. Але асноўную частку гэтай сумы работніку станцыі аплачвае прафсаюз, і атрымліваецца, што 24 дні, праведзеныя ў санаторыі, абыходзяцца рабочаму ўсяго 16 рублёў.**

**І яшчэ ў Новалукомлі заўсёды многа кветак — зімой і летам. Іх вырошчваюць у цяплічным камбінаце, пабудаваным каля электрастанцыі. Адсюль да стала гараджан паступаюць таксама агуркі, памідоры, цыбуля і іншая зеляніна.**

**НА ЗДЫМКАХ: Лукомская электрастанцыя; у цяплічным комплексе. Кветавод Л. СІНЕЛЬНІКАВА і аграном Н. ВОЛКАВА; медсястра санаторыя-прафілакторыя І. САРАШЭЎСКАЯ.**







## КАЛОДЗЕЖ ЛЯ СЕЛЬСКАГА ДОМА

Водаправод добра, а калодзеж лепш — так адказала большасць жыхароў Клімавіцкага раёна на прапанаваны ім спосаб водазабеспячэння. Вяскоўцы аддалі перавагу калодзежам, у якіх вада заўсёды смачная і халодная, нават у летнюю гарачыню, ніколі не прамярзае і не «ржавее», як у жалезных трубах. З улікам іх пажаданняў мясцовы трэст стварыў спецыяльную службу. Цяпер гаспадар робіць заказ, і праз тыдзень у яго двары з'яўляецца зруб над калодзежам, які выкапаюць вопытныя майстры.

Здабыць ваду не кожны зможа. Паспрабуй угадаць, дзе капаць, каб вада была смачнай і не ўбывала нават у самую засушлівую пару. А колькі раней прыходзілася выбіраць зямлі і падымаць яе вёдрамі наверх! Бо інструментам калодзежакапальнікаў былі рыдлёўка, вядзерца ды корба.

Цяпер іншая справа. У іх руках магутныя механізмы, якія дапамагаюць дастаць самую глыбокую ваданосную жылу, укласці бетонныя трубы-кольцы. Ёсць прыстасаванні і для паглыблення старых заглееных калодзежаў.

За мінулую пяцігодку ў вёсках рэспублікі камунальныя службы і меліяратары выкапалі звыш пяці тысяч калодзежаў.

К. ТЫЧЫНА.

### ІНТЭРВ'Ю З НАГОДЫ ЮБІЛЕЮ

# ЛЕАНІД КІСЯЛЕЎСКІ: РЭКТАР І ВУЧОНЫ

**На чале Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна ў розныя гады стаялі вядомыя нашы вучоныя. Першым рэктарам быў гісторык Уладзімір Пічэта. У пасляваенны перыяд універсітэт узначальвалі геолаг і географ Канстанцін Лукашоў, фізік Антон Сеўчанка, гісторык Усевалад Сікорскі, прафесар фізікі і механікі палімераў Уладзімір Белы. У 1983 годзе рэктарам БДУ стаў фізік Леанід Кісялеўскі, акадэмік Акадэміі навук БССР, які да гэтага працаваў галоўным вучоным сакратаром Беларускай акадэміі навук.**

**Нагодай для інтэрв'ю з ім паслужыў той факт, што днямі Л. Кісялеўскаму споўнілася 60 гадоў.**

*— Леанід Іванавіч, хацелася б, каб вы ўспомнілі той час, калі самі былі студэнтам. Наколькі мне вядома, адукацыю вы атрымалі менавіта ў Беларускім універсітэце.*

— Было гэта роўна трыццаць пяць гадоў назад. Але студэнцкія часы заўсёды помняцца. Відаць, таму, што гэта гады нашай маладосці. А чым далей ад яе адыходзіш, тым часцей успамінаеш.

Сённяшні універсітэт практычна не падобны да таго, у якім вучыліся мы. У гады акупацыі Мінска фашыстамі ён быў амаль цалкам разбураны, і ў 1947 годзе, калі я паступіў сюды, усе факультэты размяшчаліся ў адным корпусе. Два другія яшчэ аднаўляліся, і мы, студэнты, пасля заняткаў ішлі туды працаваць. Праўда, адбудоўваўся універсітэт даволі хутка, магчыма нават хутчэй, чым прамысловыя аб'екты, бо рэспубліцы тэрмінова былі патрэбны кваліфікаваныя кадры.

*— Чаму вы выбралі фізіка-матэматычны факультэт?*

— Тады, мне здаецца, фізіка выклікала ўсеагульную цікавасць, што тлумачылася перш за ўсё адкрыццём атамнай энергіі, вельмі хуткім развіццём радыётэхнікі, авіяцыі... Як ніколі раней, людзі сталі рэальна адчуваць дасягненні навукова-тэхнічнага прагрэсу. У гэтым, напэўна, і прычына майго выбару. Паўплывала, магчыма, і школьнае захапленне фізікай.

*— Вы прыйшлі ва універсітэт адразу пасля школы?*

— Да універсітэта я некалькі гадоў працаваў электраманцёрам на Мінскім вагонарамонтным заводзе і адначасова вучыўся ў вячэрняй школе, бо перад вайной паспеў скончыць толькі сем класаў. У час акупацыі, зразумела, ніякай вучобы не было. Калі ж Беларусь вызвалілі, мне ішоў васемнаццаты год і самым разумным у такой сітуацыі было пайсці працаваць, а вучобе ў школе аддаць вечары. Словам, мы прыходзілі ва універсітэт ужо больш-менш сталымі людзьмі.

*— І якой бачылася будучыня Леаніду Кісялеўскаму — сыну рабочага, студэнту універсітэта? Наўрад ці думалі тады, што вернецеся ў гэтыя сцены рэктарам?*

— Не, так далёка думка не сягала. Планы ў мяне былі даволі сціплыя. Я збіраўся заняцца педагагічнай дзейнасцю і пасля універсітэта тры гады выкладаў фізіку ў адной з сярэдніх школ Мінска. Потым паступіў у аспірантуру пры Мінскім педагагічным інстытуце і ўзяўся за дысертацыю. Тэма была на стыку фізікі і педагогікі. Але навуковым кіраўніком у мяне быў фізік, і педагогіка хутка адышла на другі план. Так і не ўдалося як след паспрабаваць сябе на ніве педагагічнай навукі. Неўзабаве пасля абароны кандыдацкай дысертацыі я перайшоў працаваць у Інстытут фізікі АН БССР і многія гады займаўся там вельмі цікавымі і важнымі, на мой погляд, праблемамі.

*— Раскажыце ўсё ж, чым вы займаліся, калі, зразумела, гэта можна выкласці папулярна.*

— Пачынаў я з фізікі плазмы. А ў той час, канец 50-х — пачатак 60-х гадоў, калі актыўнае развіццё атрымала касмічная тэхніка, гэтыя праблемы набылі важнае практычнае значэнне. Тэхніка стала працаваць ва ўмовах экстрэмальна высокіх тэмператур, і трэба было мець эфектыўную засцярогу ад іх уздзеяння, стварыць новыя матэрыялы. І калі я прыйшоў у інстытут фізікі, вядомы наш акадэмік Міхаіл Ельяшэвіч прапанаваў мне прадоўжыць работы ў гэтай галіне. Так я стаў працаваць у яго лабараторыі. І ўжо даволі хутка мы атрымалі цікавыя і важныя вынікі. Нашы ідэі, разлікі, эксперыменты аказаліся слушнымі і вельмі патрэбнымі. Такім чынам, мы, група маладых вучоных, стварылі новы кірунак, які ў той час называўся высокатэмпературнай оптыкай.

Пазней я займаўся лазерна-плазмавымі сістэмамі, тэхналогіяй выкарыстання нізкатэмпературнай плазмы, аўтаматызацыяй спектраскапічных вымярэнняў. Праўда, многа часу ўжо даводзілася аддаваць арганізатарскай рабоце: спачатку на пасадзе намесніка дырэктара інстытута па навуцы, пасля — галоўнага вучонага сакратара акадэміі.

*— Відаць, і пасада рэктара мала часу пакідае для навукі?*

— Мала, зразумела. Але час заўсёды трэба знаходзіць. Адно другому не павінна перашкаджаць. Акрамя абавязкаў рэктара, у мяне ёсць яшчэ і абавязкі загадчыка кафедры атамнай фізікі.

*— Значыць, вы і лекцыі студэнтам чытаеце?*

— Так, я выкладаю на кафедры адзін са спецкурсаў. Мне падабаецца працаваць са студэнтамі, да таго ж гэта вельмі карысна. Рэктар не можа абысціся без такіх кантактаў. Бо кафедра і студэнцкая аўдыторыя — гэта своеасаблівы барометр універсітэцкага жыцця.

*— Чым жа жыве сёння Беларускі універсітэт? Як закранаюць яго тыя перамены, што адбываюцца зараз у краіне?*

— Многае мяняецца і ў нас, перш за ўсё ў кантэксце рэформы вышэйшай школы, асноўныя напрамкі якой былі нядаўна апублікаваны ў друку.

Праблема праблем — якасць падрыхтоўкі спецыялістаў. Гэтае пытанне, вядома, заўсёды было актуальным. Але новы час выстаўляе і новыя патрабаванні. Мы пачынаем па-другому ставіць сам вучэбны працэс. Больш увагі надаём індывідуальным формам навучання, развіццю ў студэнтаў навыкаў самастойнай работы. Таму абавязковых лекцый стане менш. Але тут важна, што называецца, не перагнуць палку. Студэнты факультэта прыкладной матэматыкі, напрыклад, звярнуліся ў рэктарат з просьбай не змяншаць колькасць лекцый, таму што за дзве гадзіны выкладчык дае ім значна больш ведаў, чым яны могуць атрымаць, працуючы самастойна. Значыць, многае залежыць тут ад кваліфікацыі нашых выкладчыкаў. Больш патрабавальна трэба ацэньваць сёння ўзровень іх прафесійнай падрыхтоўкі.

*— Думка студэнтаў можа мець тут значэнне?*

— Меркаванне студэнтаў, безумоўна, павінна ўлічвацца. З гэтай мэтай на некаторых факультэтах нашага універсітэта праводзяцца апытанні.

*— Які ўвогуле сёння настрой у студэнтаў?*

— Студэнты, па-мойму, заўсёды вызначаліся аптымізмам. Сёння — тым больш. Яны зацікаўлена ставяцца да ўсяго, што адбываецца навокал — і ва універсітэце і за яго сценамі. Адкрыта выказваюць свае думкі, сваю згоду або нязгоду, выступаюць з прапановамі. Бывае, праўда, яны больш схільныя даваць ацэнку іншым, чым сабе. Але гэта ўласціва, відаць, усім маладым. Напэўна такімі ж у свой час былі і мы.

Гутарку вёў
Ігар ГЕРМЯНЧУК.

## *ВЫДАННІ «ГОЛАСУ РАДЗІМЫ»*




З'явілася першае выданне «Бібліятэчкі газеты «Голас Радзімы» за 1987 год — кніжка Вацлава Мацкевіча «Канцэрт... з паліцэйскім». У кароткай анатацыі да яе сказана, што змест кніжкі складаюць рэпартажы з далёкай дарогі. Аўтар пабываў у Канадзе, Злучаных Штатах Амерыкі, у Францыі і Іспаніі, дзе ў яго былі сустрэчы з нашымі землякамі і іншаземцамі, са шчырымі сябрамі Савецкай краіны і зласліўцамі.

Лепш благі мір, чым добрая сварка, сцвярджае народная мудрасць. Савецкія людзі заўсёды імкнуцца дагаварыцца нават са сваімі ідэйнымі праціўнікамі. І лепш за ўсё рабіць гэта ў спакойнай бяседзе, пераконваючы партнёра важкімі аргументамі, выслухаўшы яго і выказаўшы свае погляды па тых ці іншых пытаннях. Вялікія ісціны могуць тады часам адкрыцца.

Мне чамусьці здаецца, што застольная гутарка аўтара гэтай кніжкі з мадам Хэйкельдэмідоф (рускай па паходжанні) у Ніцы прынесла ёй вялікую карысць. Перш за ўсё яна ўскалыхнула ў чарсцвеючай душы ўжо немаладой дамы патрыятычныя пачуцці, прымусіла задумацца, ці не ўяўная тая свабода, якой карыстаецца яна, жывучы ў буржуазнай краіне, ці не згубленымі беззваротна аказаліся гады, якія правяла яна ўдалечыні ад Радзімы.

Другі наш зямляк, Міхаіл з-пад Львова, які з сям'ёй прыехаў да маці ў Францыю, значна хутчэй, чым мадам Хэйкельдэмідоф, зразумеў, якое глупства ён зрабіў, пакінуўшы Савецкі Саюз, сяброў, работу, такі звыклы лад жыцця.

— Не прыжыўся я тут, — з горыччу спавядаўся зямляк, — ды і не прыжывуся ўжо. Зямля не тая, народ чужы.

Нататкі, змешчаныя ў кніжцы «Канцэрт... з паліцэйскім», яднае тэма мастацтва, савецкага мастацтва, сіла яго ўздзеяння на людзей, раней з ім незнаёмых, або на тых, хто навечна адарваны ад магутнага вечназялёнага дрэва Радзімы і адчувае сябе засохлай без пары галінкай. Савецкі пісьменнік Пётр Праскурын на адной з сустрэч з землякамі ў Іспаніі сказаў, звяртаючыся да іх: «Самае лепшае, што мае кожны народ, — гэта яго культура. Дык не толькі самі карыстайцеся гэтым скарбам, але і не хавайце яго ад народа, сярод якога вам выпала доля жыць. Хай па культуры пазнаюць і савецкі народ, і Савецкую краіну».

І сапраўды, бадай, ва ўсіх замежных краінах, дзе ёсць нашы суайчыннікі, створаны прагрэсіўныя таварыствы, клубы, пры якіх працуюць гурткі мастацкай самадзейнасці. На іх канцэрты прыходзяць звычайна і іспанцы, і французы, і амерыканцы, і канадцы, таму што ўсім падабаюцца нашы песні, нашы танцы. Таксама агульнавядома, што выступленні савецкіх артыстаў, у якую б краіну яны ні прыязджалі, праходзяць пры перапоўненых залах.

У новай кніжцы расказваецца пра канцэрт савецкіх артыстаў у Ванкуверы перад студэнцкай аўдыторыяй. Сярод артыстаў быў выдатны латышскі кампазітар і піяніст Раймонд Паулс, спявачкі Валянціна Семілеткава і Таццяна Мірашнічэнка, беларускі музыкант, цымбаліст Алесь Лявончык... Пяцьдзесят хвілін, адведзеных на канцэрт, праляцелі вельмі хутка. «Зала апладзіравала стоячы. Твары свяціліся радасцю і даверам. Усі[illegible]ло шкада, што сустрэча з [illegible]дзьмі савецкага мастацтва скончылася, што была яна такой кароткай».

З вялікім поспехам прайшоў канцэрт савецкіх артыстаў і ў Сан-Францыска, арганізаваны таварыствам нашых с[illegible]ыннікаў «Русарт». Паслуг[illegible]зліцэйскага, запрошанага арганізатарамі канцэрта для падтрымання парадку, проста не спатрэбіліся. Больш таго, ён сам быў самым зацікаўленым і ўдзячным гледачом і ад платы за сваю работу адмовіўся. «Мне прыемна было патраціць гэты час, — сказаў ён. — Я адмаўляюся ад грошай і гатоў сам заплаціць за канцэрт па самай высокай цане».

Кніжка «Канцэрт... з паліцэйскім» хутка трапіць да нашых чытачоў. І можа хто-небудзь з іх успомніць, як прысутнічаў на адным са згаданых канцэртаў. Прачытаўшы, зноў перажыве хвалюючыя імгненні сустрэчы з сапраўдным мастацтвам, культурай народа, з глыбінь якога выйшаў і ён сам.

**Дзіяна ЧАРКАСАВА.**

## АЛЯКСАНДР МЯДЗВЕДЗЬ ПРА СЯБЕ І СВАІХ САПЕРНІКАЎ

# ПАЙШОЎ НЕПЕРАМОЖАНЫМ

У нумар, дзе адпачываў Аляксандр Мядзведзь, час ад часу заглядвалі трэнеры, прадстаўнікі алімпійскай каманды СССР па вольнай барацьбе, таварышы па зборнай і прыносілі апошнія весткі: «За туркаў будзе выступаць Йілмаз... Трэнер амерыканцаў даў інтэрв'ю карэспандэнтам. Пахваляецца, што яго падапечны Крыс Тэйлар падрыхтаваў для рускага сюрпрыз... Немец Вільфрыд Дзітрых абяцаў сваім землякам стаць чэмпіёнам...»

Аляксандр, здавалася, ніяк не рэагаваў на гэтыя паведамленні. Толькі раз спытаў:

— А што кажа журналістам балгарын Асман Дураліеў?

— Нямнога. Калі, гаворыць, у Мюнхен прыехаў Аляксандр Мядзведзь, то я буду другім — серабро, лічыце, у мяне.

Праслаўлены беларускі барэц папрасіў больш яго не турбаваць: трэба было як след падрыхтавацца да рашаючых паядынкаў, усё абдумаць, прыкінуць, намеціць план сваіх выступленняў.

Доўга ён сядзеў за сталом і думаў. Лёс падрыхтаваў яму тут, у Мюнхене, цяжкае выпрабаванне. Знарок і не прыдумаеш. Што ні імя, то сусветная слава, кожны можа паднесці сюрпрыз.

Якую тактыку выбраць? Як весці паядынкі?

Алімпійская сістэма жорсткая: прайграў — выбываеш. Але барэц з Беларусі амаль не сумняваўся, хто павядзе барацьбу за медалі, бо добра ведаў сілу кожнага спартсмена ў самай цяжкай і прэстыжнай катэгорыі.

Крыс Тэйлар... Тройчы сустракаўся з ім Мядзведзь і тройчы перамагаў. Хваліцца трэнер амерыканца, што падрыхтаваў сюрпрыз... Цяжка ў гэта паверыць. Галоўны козыр Тэйлара — вага спартсмена. Гэта ж не жартачкі: амаль два цэнтнеры. Трапіш пад яго — лічы, прайграў.

Вільфрыд Дзітрых... Самы вопытны і спрактыкаваны барэц. Яшчэ ў 1961 годзе ў Іакагаме на першынстве свету ён вы[illegible]ў у Мядзведзя. З таго часу да Алімпі[illegible]ў 1972 годзе ў Мюнхене больш гэтага зрабіць нямецкаму спартсмену не ўдавалася. Вядома, ён будзе дамагацца стаць чэмпіёнам, тым больш, што выступае дома. Але... куды дзенешся ад сваіх трыццаці дзевяці гадоў!? Не той час. Пік спартыўнай формы ў Дзітрыха прайшоў...

І Аляксандр Мядзведзь прыходзіць да вываду, што галоўным праціўнікам павінен стаць балгарын Асман Дураліеў. Вось ужо на працягу многіх гадоў паміж імі ўсталяваліся цёплыя, сяброўскія адносіны. Аляксандр некалькі разоў быў у Асмана ў Сафіі ў гасцях.

Абаяльны Дураліеў — у жыцці вялікі гумарыст. Гутарыць з ім было вельмі прыемна. Затое на барцоўскім дыване ён нібы перараджаўся. Хуткі, вёрткі, па-спартыўнаму злы, валявы і добра падрыхтаваны.

Гэта на самай справе і пацвердзіў фінальны паядынак двух выдатных барцоў. Схватку выйграў Аляксандр Мядзведзь і трэці раз запар стаў чэмпіёнам Алімпіяды па вольнай барацьбе. А калі да гэтага дабавіць — сяміразовы чэмпіён свету, трохразовы — Еўропы, дзевяціразовы — СССР, то можна з упэўненасцю сказаць, што такога поспеху не дамагаўся ніхто.

...Вось ужо колькі разоў па тэлевізары паказваюць хроніку той Алімпіяды ў Мюнхене. Пасля сваёй перамогі Аляксандр Мядзведзь выйшаў на дыван і пацалаваў яго. І ўсе зразумелі, што выдатны спартсмен... пакідае вялікі спорт.

— У тыя дні, — успамінае Аляксандр Васільевіч, — я атрымаў мноства тэлеграм, пісем, паштовак... Штомінутна званілі па тэлефоне. Усе пераконвалі мяне, што я ў зеніце славы, што яшчэ не адзін год буду заставацца непераможаным, раілі, прасілі і нават патрабавалі вярнуцца на дыван. Наконт гэтага я перакананы цвёрда: кожны спартсмен павінен ведаць, калі яму закончыць выступаць. Да таго ж я пакінуў дыван ужо ў трыццаць пяць гадоў...

— Аляксандр Васільевіч, — пытаюся ў яго, — апошні выхад на дыван быў у 1972 годзе, а ці памятаеце свой першы?

**(Заканчэнне на 8-й стар.).**



**Гродзенскі дзяржаўны універсітэт — адзін з самых маладых навучальных цэнтраў рэспублікі. Ён быў створаны ўсяго сем гадоў назад. Першыя яго выпускнікі працуюць сёння ў розных галінах народнай гаспадаркі, займаюцца навуковай работай, вучаць дзяцей. Штодзённа лабараторыі і аўдыторыі універсітэта наведваюць каля дзвюх тысяч юнакоў і дзяўчат — будучых матэматыкаў, фізікаў, гісторыкаў, біёлагаў, юрыстаў... Многія студэнты, напрыклад, фізічнага факультэта спрабуюць рэалізаваць свае творчыя задумы ў канструктарска-студэнцкім бюро «Фатон».**

**НА ЗДЫМКУ: студэнты матэматычнага факультэта.**

**Фота М. АМЕЛЬЧАНКІ.**

# СССР ГАТОВЫ НА САМЫЯ РАШУЧЫЯ КРОКІ

**(Заканчэнне. Пачатак на 2-й стар.).**

А вазьміце забруджванне асяроддзя існавання. Маштабы індустрыялізацыі і развіцця транспарту на нашым кантыненце такія, што экалагічная небяспека ўжо наблізілася да крытычнай адзнакі. Праблема гэта выйшла далёка за нацыянальныя межы, яна — агульнаеўрапейская.

Пара падумаць і аб тым, як будуць далей праходзіць інтэграцыйныя працэсы ў абедзвюх частках Еўропы. Светагаспадарчыя законы аб'ектыўныя. Ды і навукова-тэхнічны прагрэс падштурхоўвае да пошуку нейкіх форм узаемавыгаднай кааперацыі.

Савет Эканамічнай Узаемадапамогі падаў сігнал да наладжвання мастоў у інтарэсах усіх еўрапейскіх народаў. Можна разлічваць, што новыя працэсы ў эканоміцы краін сацыялістычнай садружнасці дадуць магчымасць актывізаваць і ўзбагаціць, напоўніць новым зместам эканамічнае супрацоўніцтва абедзвюх палавін Еўропы.

Еўропа «ад Атлантыкі да Урала» — гэта і гісторыка-культурная катэгорыя ў высокім духоўным сэнсе. Тут сусветная цывілізацыя ўзбагацілася ідэямі адраджэння і асветы, атрымалі магутнае развіццё гуманістычная традыцыя і вучэнне аб сацыялізме, намаганнямі геніяльных людзей усіх еўрапейскіх нацый створаны неацэнны фонд ва ўсіх галінах навуковых ведаў і мастацкага пазнання свету.

Такім чынам, замест ядзернага крэматорыя для Еўропы мы прапануем мірнае развіццё шматаблічнай і разам з тым цэласнай еўрапейскай культуры.

Наша ўяўленне аб «агульнаеўрапейскім доме» зусім не азначае намеру зачыніць яго дзверы для каго-небудзь. Наадварот, прагрэс Еўропы дазволіў бы ёй уносіць яшчэ большы ўклад у прагрэс усяго астатняга свету. Еўропа не павінна ўхіляцца ад удзелу ў вырашэнні праблем голаду, запазычанасці, слабаразвітасці, садзейнічання ліквідацыі ўзброеных канфліктаў.

Можна не сумнявацца, што еўрапейскія народы без выключэння стаяць за тое, каб на кантыненце ўсталявалася атмасфера добрасуседства і давер'я, суіснавання і супрацоўніцтва. Гэта было б у поўным сэнсе трыумфам новага палітычнага мыслення.

Набліжэнне да гэтай мэты дыктуецца зусім не толькі меркаваннямі маральнага парадку. Ён адпавядае глыбокім інтарэсам усіх еўрапейскіх нацый, бо ў наш век узаемазалежнасці ўзнікае ўсё больш праблем, якія могуць быць вырашаны толькі сумеснымі намаганнямі еўрапейскага, ды і ўсяго сусветнага супольніцтва. Хіба не патрабуе аб'яднання барацьба з такімі пагражаючымі цывілізацыі з'явамі, як тэрарызм, злачыннасць, наркаманія? Хіба не ясна, што калі мы сёння не аб'яднаем намаганні ў барацьбе супраць такой новай бяды, якая абрушылася на чалавецтва, як СПІД, то ўжо заўтра можа быць позна.

Гэты пералік можна прадоўжыць. Літаральна дзесяткі складанейшых праблем набываюць сёння статус глабальных, гэта значыць іх вырашэнне пад сілу толькі аб'яднанаму сусветнаму супольніцтву. Еўропа можа паказаць дастойны прыклад, і нашы краіны поўныя рашучасці ўнесці ў гэта свой дастойны ўклад.

У гэтым кантэксце мы разглядаем ініцыятыву Чэхаславакіі аб скліканні эканамічнага форуму. Перакананы, што ён зможа адыграць вялікую ролю ва ўмацаванні эканамічнай бяспекі дзяржаў, у развіцці ўзаемавыгаднай кааперацыі.

Тым жа імкненнем прадыктавана і наша прапанова правесці ў Маскве канферэнцыю дзяржаў — удзельніц агульнаеўрапейскай нарады па развіццю гуманітарнага супрацоўніцтва.

Мы лічым, што ўнясення і абмеркавання дастойна любая ідэя, якая хоць у нечым рэальна аслабляе напружанасць процістаяння. Разам ужо зроблена многае, каб паняцце агульнага еўрапейскага дома набыло правы грамадзянства. Агульнапрызнана пасляваенная еўрапейская сістэма. Жывы хельсінкскі працэс, які дае магчымасць крок за крокам умацоўваць давер'е паміж усімі еўрапейскімі краінамі.

Дзейнічаць у гэтым ключы, выяўляць агульныя інтарэсы, зніжаць узровень ваеннага процістаяння, імкнуцца да бяз'ядзернага свету — так мы хацелі б весці справы ў Еўропе.

## АКТУАЛЬНЫЕ БЕСЕДЫ

# АПРЕЛЬСКИЙ РУБЕЖ

На одно и то же явление можно смотреть по-разному. Это подтверждает и свежий пример. «Спустя 23 месяца после прихода к власти Горбачева, — писала в конце января московский корреспондент западногерманской газеты «Вельт» госпожа Р.-М. Борнгессер, — предложенные им инициативы так и не нашли должного отклика в стране. Для провозглашенной Горбачевым «революции» не хватает ни желания в руководящих органах, ни энтузиазма масс».

А вот другой взгляд, принадлежащий советскому писателю Олегу Попцову. «Даже не верится, — делится он мыслями в «Литературной газете», — что ровно один год отделяет нас от XXVII съезда партии и неполных два — от апрельского Пленума; по ощущению значительности перемен и значимости событий кажется, что прошло лет семь, а то и десять. Очень многое вместили эти два года». Уверен, что советские люди разделяют именно такую точку зрения.

Интересный, динамичный и нелегкий период переживает сейчас Советский Союз. Крупная страна современного мира живет значительными переменами. В чем они видны? По правде говоря, во всем. Рабочие все чаще сами выбирают своих руководителей — начальников цехов и директоров предприятий. Газеты полны страстных статей, бичующих недостатки, бюрократов, случаи пьянства, недобросовестной работы, бездушного отношения к людям, — словом, все, что надо быстрее искоренить в реальной жизни. Молодежь, профсоюзы решают проблемы повышения своего вклада в дела страны. Люди из разных стран, придерживающиеся различных философских, политических, религиозных взглядов и убеждений, совместно обсуждают меры борьбы за безъядерный мир, за выживание человечества. Михаил Горбачев, выражая чувства и волю большинства советских людей, настойчиво убеждает: больше гласности, больше демократии, больше социализма, чтобы еще лучше жили трудящиеся страны.

Советский Союз готовится к 70-летию Великой Октябрьской социалистической революции и вглядывается в итоги пройденного пути. Есть крупные экономические, социальные, культурные достижения. Но они меньше того, что социализм способен был дать. Поэтому советские люди не довольствуются достигнутым, хотят коренным образом изменить обстановку в обществе. В результате сегодня больше, пожалуй, говорится о недостатках, которые надо преодолеть, чем об успехах.

И все это не случайно. Народ, сделавший свой социалистический выбор в 1917 году, привык быть к себе требовательным, строгим, не увлекаться и не хвастаться успехами. А когда об этом стали забывать, когда в своем развитии в 70-х — начале 80-х годов стали идти медленнее, чем могли, это побудило взыскательно и критически оценить происходящее, подумать о том, как переломить негативные, застойные явления.

Началом ощутимого перелома, символом обновления самой общественной жизни и стал Пленум ЦК КПСС, состоявшийся в апреле 1985 года. На нем был поставлен вопрос о необходимости решительных перемен, об ускорении социально-экономического развития страны, о перестройке. По существу, речь шла о мерах радикального, революционного характера, о всесторонних преобразованиях в обществе.

Апрельский Пленум помог осмыслить ситуацию в стране и определить в общем виде контуры той политики, которую назвали ускорением развития. После этого Пленума в течение почти целого года шла подготовка XXVII съезда КПСС, на котором стратегия ускорения была представлена в действительно развернутом и конкретном виде. Именно съезд партии глубоко и обстоятельно разработал все вопросы, намеченные в апреле 1985 года, все идеи апреля. А их было много — и в области внутренней, и международной политики. Это интенсификация экономики, большее внимание к социальной сфере и социальной политике, к вопросам питания, жилья, здравоохранения, организации труда и быта людей. Это социалистическое самоуправление народа, перестройка психологии, выработка нового политического мышления, новых подходов в международных делах с учетом реальностей ядерно-космического века.

Продолжая идеи апрельского Пленума, ЦК партии, ее съезд выработали конкретную долгосрочную программу действий, которая органично соединила величие целей и реализм возможностей, планы партии с надеждами и чаяниями советских людей.

Идея перестройки, прозвучавшая в апреле, стала ныне центром всех дел советских людей. Перестройка — это решительное преодоление застойных процессов, слом механизма торможения, создание надежного и эффективного механизма ускорения социально-экономического развития советского общества. Главный з... сел стратегии партии — соед... ь достижения научно-технической революции с плановой экономикой и привести в действие весь потенциал социализма.

И что особенно важно, в центре перестройки — человек, его интересы, ...о таланты и дарования, ... человеческий фактор. С человека начинается перестройка. Она осуществляется человеком. Осуществляется во имя человека.

Что дали два года после апрельского Пленума? Что реально дает перестройка? Об этом говорят итоги выполнения плана первого года пятилетки. Национальный доход вырос на 4,1 процента при плане в 3,9 процента и среднегодовом приросте за прошлую пятилетку в 3,6 процента. Прирост промышленного производства составил 4,9 процента, что на треть выше, чем среднегодовой прирост в минувшей пятилетке, и является наиболее высоким за последние десять лет.

Сегодня в стране складывается новая морально-нравственная атмосфера. Идет переоценка ценностей, их творческое переосмысление, развернулись дискуссии о путях преобразований в экономике, социальной и духовной сферах, расширяется поиск новых методов организаторской и идеологической работы. В качестве активно действующих принципов жизни все больше утверждаются гласность, правдивость в оценке явлений и событий, непримиримость к недостаткам, желание улучшать дело.

На январском (1987 года) Пленуме ЦК КПСС отмечалось, что сейчас в стране лучше, чем когда-либо, понимается глубина мысли В. И. Ленина о живой, внутренней связи социализма и демократии. Весь исторический опыт Советского Союза убедительно показал, что социалистический строй на деле обеспечил политические и социально-экономические права граждан, их личные свободы, раскрыл преимущества советской демократии, создал каждому человеку уверенность в завтрашнем дне.

**Вячеслав ХАЛИПОВ,**
**доктор философских наук,**
**профессор.**
(АПН).

НЕСКОНЧАЕМ людской поток к усыпальнице основателя Советского государства. Более 100 миллионов человек со всех концов Земли уже посетили Мавзолей Владимира Ильича Ленина на Красной площади в Москве.

Январь 1924 года. Ульянов (Ленин) болен и находится на лечении под Москвой. В состоянии его здоровья наступило заметное улучшение, и ничто не предвещало беды. Неожиданно во второй половине дня 21 января наступило резкое ухудшение здоровья, и в 18 часов 50 минут Ленин скончался.

## ПАМЯТНИК ВОЖДЮ РЕВОЛЮЦИИ И ВСЕНАРОДНАЯ ТРИБУНА

# КРАСНАЯ ПЛОЩАДЬ, МАВЗОЛЕЙ ЛЕНИНА



Весть о его смерти облетела мир. В адрес руководителей партии и государства стали поступать многочисленные телеграммы и письма от советских людей и из-за рубежа с просьбой дать возможность в ближайшем или отдаленном будущем увидеть вождя мирового пролет... та и проститься с ним. С учетом этог... ринимается специальное правительственное постановление:

1. Гроб с телом Владимира Ильича Ленина сохранить в склепе, сделав последний доступным для посещения.

2. Склеп соорудить у Кремлевской стены на Красной площади среди братских могил борцов Октябрьской революции.

Скульптор Меркулов снимает гипсовую копию лица и рук Ленина. Затем производится бальзамирование тела.

В ночь с 23 на 24 января комиссия по организации похорон приглашает выдающегося архитектора академика Щусева и предлагает ему к утру 24 января выполнить проект временного Мавзолея.

Так начинается история создания и строительства Мавзолея В. И. Ленина.

В истории архитектуры имелся ряд примеров создания мавзолеев: египетские пирамиды, Тадж-Махал в Индии, гробница Мавсола в Греции — огромные сооружения, отличающиеся роскошным убранством, массивной и сложной конструкцией. При создании Мавзолея В. И. Ленина все обстояло иначе. В проекте необходимо было показать простоту и величие этого человека, вечность его идей. С этой задачей Щусев справился блестяще. Его Мавзолей был прост, лаконичен, имел огромное эмоциональное воздействие на людей и выполнял свою задачу — создать временную усыпальницу Вождю Революции.

Он состоял из траурного зала в виде куба, который венчала трехступенчатая пирамида. Два небольших блока справа и слева представляли собой вход и выход из него. К утру 27 января строительство деревянного Мавзолея уже было закончено. Из множества предлагавшихся для него надписей выбрана одна — «ЛЕНИН». И сегодня трудно представить более лаконичное, простое и вместе с тем более величественное и емкое слово.

27 января, 16 часов. Кремлевские куранты исполняют «Интернационал». Гремят орудийные залпы, фабрики и заводы посылают прощальные гудки. Гроб с телом Ленина переносится в Мавзолей. На пять минут замирает вся жизнь в стране... В Петрограде (ныне Ленинград) на Марсовом поле зажжены 53 костра, символизирующие прожитые им годы.

Спустя некоторое время Щусеву предложили реконструировать Мавзолей, придав ему законченные архитектурно-художественные формы. Эта работа была завершена уже к 1 мая 1924 года. Реконструированный Мавзолей был выполнен в виде одного сооружения, сохранявшего основную идею: куб — символ вечности в архитектуре.

1 августа 1924 года Мавзолей В. И. Ленина был открыт для посещения. В день открытия сюда было внесено и установлено рядом с саркофагом знамя Парижской коммуны, переданное французскими коммунистами — внуками парижских коммунаров. Позже оно стало одним из ценных экспонатов Музея В. И. Ленина в Москве.

В 1929 году Советское правительство вновь принимает постановление о Мавзолее В. И. Ленина. В нем говорилось о том, чтобы, не меняя архитектурной композиции, воспроизвести его в долговечном материале — камне. Работа вновь была поручена академику Щусеву.

Возводить Мавзолей решили из материалов, взятых из различных географических точек Советского Союза. Для отделки, например, применили породы камня трех цветов: красный, черный и серый. С этой целью Щусев, побывав на многих карьерах страны, отобрал черный лабрадорит, обладающий уникальным свойством при изменении поворота луча света давать совершенно различные оттенки. Его добывали на Украине. Малиновый кварцит — в единственном в мире карьере на берегу Онежского озера в Карелии.

Наружная облицовка Мавзолея выполнялась в основном из гранита красного цвета, а интерьер — из черного и серого лабрадорита и габбро.

Буквы, составляющие имя ЛЕНИН, были вырезаны из малинового кварцита и заглублены в монолит на 15 сантиметров. Получилась инкрустация камня по камню.

Обработка каменных блоков весом от 1 до 10 тонн производилась в специально оборудованных мастерских. Среди блоков есть и уникальные. К примеру, один из черного лабрадорита, который служит постаментом под саркофаг, весил до обработки 25 тонн. Другой, длиной 8 метров, установленный над главным входом в Мавзолей,— 60 тонн.

Для посещения Мавзолей В. И. Ленина был открыт в ноябре 1930 года. Центральная трибуна на нем была возведена в 1945 году.

Каков внутренний вид Мавзолея?

Входная дверь из дуба обшита медными листами. Небольшой вестибюль. На противоположной от входа стене — плита из серого лабрадорита. На ней Герб СССР — дань уважения создателю Союза Советских Социалистических Республик.

Из вестибюля двадцать восемь ступеней ведут вниз в Траурный зал — куб со ступенчатым потолком. В центре на постаменте хрустальный саркофаг с телом Ленина. Он покоится на бронзовой раме. У изголовья саркофага небольшой Герб Советского Союза, в ногах — дубовая ветвь, по бокам в траурно-боевом приветствии приспущены бронзовые знамена. Специальные светооптические приборы освещают лицо Ленина мягким, рассеивающим светом. И в памяти навечно остается его огромный лоб, рыжеватая бородка и усы.

Мавзолей — это памятник Вождю Революции и Всенародная трибуна. Отсюда руководители Коммунистической партии и Советского правительства в дни национальных праздников приветствуют демонстрации трудящихся и воинские парады.

**Александр САВРАНСКИЙ.**
(АПН).

СУМЛЕННЫ грамадзянскі голас мастака заўсёды быў чутны ў СССР. Сёння ён больш гучны, без скажэнняў. Гэтаму садзейнічае маральная атмасфера, для якой характэрныя глыбокае прачытанне народам уласнай гісторыі, смелы пошук адказаў на новыя, ды і некаторыя старыя праблемы, ясная лінія на публічнасць, крытыку і самакрытыку.

Мы верым у вартасці і перавагі сацыялістычнага шляху развіцця. Такая вера народжана ўласнай практыкай, сусветным сацыялістычным вопытам. Але сказанае не значыць, што савецкае грамадства глухое да ўсяго, што ляжыць за межамі гэтага вопыту. Мы хочам, каб наш духоўны арсенал папаўняўся ўсімі лепшымі здзяйсненнямі чалавечага розуму і сэрца.

Супрацьлегласць дзвюх грамадскіх сістэм — сацыялістычнай і капіталістычнай, натуральна, прадугледжвае спаборніцтва паміж імі, але спаборніцтва мірнае. Ва ўмовах жа ядзерна-касмічнай эры гэта становіцца катэгарычным патрабаваннем. А раз так, то многае ва ўзаемаадносінах дзвюх сістэм мае патрэбу ў новым асэнсаванні. І ўжо ва ўсякім разе, проста неабходна адмовіцца ад культывавання вобразу «ворага», што вядзе да духоўнага асляплення, перашкаджае наладжваць элементарнае ўзаемаразуменне, садзейнічае небяспечнай напружанасці ў міждзяржаўных адносінах.

## ШТО ЗА СЛОВАМ «ПЕРАСТРОЙКА»

# ПЕРАМЕНЫ Ў ДУХОЎНАЙ СФЕРЫ

Гэта адна рыса ў духоўных шуканнях, якія адбываюцца ў Савецкім Саюзе. Другая звязана з унутранымі справамі. Бадай, цяжка назваць які-небудзь іншы перыяд, хіба што першыя паслярэвалюцыйныя гады, калі б такім яркім, разнастайным, насычаным было мастацкае жыццё.

Узаемаадносіны паміж творчымі работнікамі і, скажам так, чыноўнікамі ад мастацтва рэдка бываюць гарманічнымі. Сапраўдны мастак заўсёды наперадзе свайго часу, тады як чыноўнік прыхільны да таго, што ўсталялася. Дык вось, сёння можна сказаць, што перамога аказалася на баку творцаў. Гэта выяўляецца не толькі ў кадравых змяненнях, якія адбыліся ў Саюзе кінематаграфістаў, Саюзе пісьменнікаў, іншых творчых асацыяцыях краіны.

Выдавецтвы ахвотна прымаюць і публікуюць рукапісы, якія гадамі ляжалі ў рабочых сталах іх аўтараў. «Тоўстыя» часопісы нарасхват, бо што ні нумар, то абавязкова публікуюцца творы, якія выклікаюць шырокі грамадскі інтарэс.

На экраны выходзяць фільмы, якія па волі казённых «знаўцаў» мастацтва некалі адпраўляліся на паліцу. Гэта «Тэма» Глеба Панфілава, «Праверка на дарогах» Аляксея Германа, «Агонія» Элема Клімава, выбранага кіраўніком Саюза кінематаграфістаў. У кінатэатрах краіны нанава дэманструецца сузор'е фільмаў Андрэя Тарkоўскага, які памёр нядаўна ў Парыжы.

На тэатральных сцэнах ідуць спектаклі, поўныя грамадзянскіх страсцей, бязлітаснага непрыняцця фальшу і паўпраўды. У музычных залах гучаць сучасныя рытмы. Узнікаюць дзесяткі новых ансамбляў, якім вельмі доўга давялося адстойваць свае правa на існаванне. Бурны ўздым творчай актыўнасці арганічна звязаны з перабудовай і ў той жа час садзейнічае развіццю гэтага працэсу, абуджэнню грамадзянскіх пачуццяў.

Паказальная гісторыя са стварэннем помніка Перамогі савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне 1941—1945 гадоў на Паклоннай гары ў Маскве. Праект помніка распрацоўваўся кялейна. Ва ўсякім выпадку, на суд грамадскасці ён не быў прадстаўлены. Але пачаліся работы, у друку з'явіліся публікацыі з макетам помніка. І гэта выклікала грамадскую буру. Наладзілі адкрыты конкурс, на якім было прадстаўлена мноства праектаў. Усе яны ў ходзе страсных дыскусій аказаліся адхіленымі, і конкурс прадоўжаны да таго часу, пакуль грамадскасць не выкажа свайго адабрэння аднаму з будучых рашэнняў.

Другі прыклад. Існавалі ў Савецкім Саюзе праекты перакідкі часткі сцёку паўночных рэк на поўдзень. Народжаны яны былі тэхнакратычнымі розумамі, якія палічылі, што калі на поўначы вады многа, а на поўдні мала, то можна ўмяшацца ў прыроднае асяроддзе і выправіць «памылкі» светабудовы. Сёння гэты праект рашуча пахаваны — у першую чаргу, намаганнямі пісьменнікаў, грамадскасці.

Гэтыя два прыклады мы прыводзім для таго, каб сказаць: публічнасць — не толькі магчымасць гаварыць аб усім, публічнасць — выпрацоўка дзеянняў, практычных крокаў з удзелам самай шырокай грамадскасці.

Важнай рысай духоўнага жыцця ў СССР стала ўзрослая цікавасць да гісторыі — як да перыяду да Кастрычніка 1917 года, так і пасля. Сёння робяцца перавыданні прац рускіх гісторыкаў і мысліцеляў XVIII, XIX, пачатку XX стагоддзяў. Шырока публікуюцца рускія літаратары, чыё жыццё воляй абставін большай часткай прайшло на чужыне. Гэта і Уладзімір Набокаў, і Уладзіслаў Хадасевіч, і шэраг іншых пісьменнікаў. Адбываецца вяртанне ў духоўную скарбніцу нацыі часткі яе культурных каштоўнасцей.

Устойлівасць, незваротнасць працэсу перабудовы жывіцца не толькі наспеўшай грамадскай патрэбнасцю, але і свежым асэнсаваннем гістарычнага вопыту, узятым у яго цэласнасці, гэта значыць з поспехамі і паражэннямі, з вартасцямі і выдаткамі.

Працэс перабудовы — і гэта відавочна — накіроўваецца партыяй камуністаў, яе Цэнтральным Камітэтам. Але было б няправільна рабіць вывад, што размова ідзе пра рэформы зверху. Гэтыя рэформы «падслуханы» ў грамадстве. Яны «падказаны» грамадскасцю ў немалой меры дзякуючы мастацтву, у якім адлюстроўваюцца надзеі і сумненні, радасці і расчараванні чалавека.

У пошуках правільных дарог да абнаўлення савецкае грамадства зусім не канцэнтруецца на тым, каб «звесці рахунак з мінулым». Галоўная ўвага ўдзяляецца дню сённяшняму і дню заўтрашняму. Таму мы не ідэалізуем сённяшні стан спраў. У перабудове зроблены толькі першыя крокі. Але дарога выбрана — дарога рэвалюцыйнага абнаўлення. І яна будзе пройдзена.

**Мікалай ШЫШЛІН.**





# ТЭАТР ЗАЎСЁДЫ МАЛАДЫ

Яшчэ ішлі баі на франтах другой сусветнай вайны, а вызвалены Брэст вяртаўся да мірнага жыцця. У кастрычніку 1944 года было прынята рашэнне аб адкрыцці ў пагранічным горадзе драматычнага тэатра, які нараджаўся з вялікімі цяжкасцямі. Спектаклі ставіліся ў кінатэатрах, клубах, у памяшканні тэатральных майстэрняў. Але ўжо ў 1947 годзе тэатр перабраўся ў свой будынак.

Вельмі многа спектакляў пастаўлена з той пары, але асаблівае месца ў рэпертуары тэатра заняла п'еса К. Губарэвіча «Брэсцкая крэпасць», якая заснавана на дакументальных фактах, яе героі мелі прататыпаў у жыцці, яе сюжэт востры і дынамічны, яна вызначаецца псіхалагічнай праўдзівасцю, раскрывае глыбінныя матывы подзвігу герояў, паказвае складанасць чалавечага лёсу.

Спектакль «Брэсцкая крэпасць» для брэстчан асаблівы яшчэ і таму, што ён быў пастаўлены ў горадзе, дзе кожны жыхар ведае пра бяспрыкладны подзвіг абаронцаў Брэсцкай крэпасці ў самым пачатку вайны, пра воінаў гарнізона, якія стаялі на смерць, адбіваючы атакі ворага.

Асабліва вялікі поспех выпаў на долю П. Маркіна, М. Абрамава, Т. Заронак, Б. Уксусава і многіх іншых акцёраў, стварыўшых яскравыя жыццёвыя, перакана̀ўчыя вобразы мужных абаронцаў Радзімы.

Амаль 800 разоў ішоў спектакль на сцэне Брэсцкага тэатра, а таксама ў Маскве, Мінску, гарадах Украіны і Прыбалтыкі, у Польскай Народнай Рэспубліцы. У 1967 годзе спектакль быў адзначаны прэміяй Ленінскага камсамола.

Значнае месца заняла праца над стварэннем Лeнініяны. Былі пастаўлены спектаклі «Сям'я» У. Папова, «Фінал» П. Строгава, «Крамлёўскія куранты» М. Пагодзіна, «Брэсцкі мір» К. Губарэвіча, «Дзень цішыні» М. Шатрова. Дарэчы, у 1969 годзе адзін са старэйшых акцёраў тэатра Анатоль Логінаў за выкананне





ў шэрагу спектакляў ролі Леніна ўдастоены звання народнага артыста БССР. Бадай, вядучае месца ў рэпертуары Брэсцкага тэатра займаюць п'есы беларускіх аўтараў. Гэта «Апраўданне крыві» І. Чыгрынава, «Вечар» А. Дударава, «Добрая памяць па сходнай цане» В. Іпатавай, «Патоп» А. Макаёнка. У іх побач з вопытнымі, сталымі артыстамі нямала моладзі. Гледачам ужо добра знаёмы імёны Аляксандра Гаманюка, Таццяны Кавалеўскай, Алега Радкевіча, Барыса Чарняўскага, Наталлі Кліманавай. Маладыя — будучыня тэатра, які носіць імя Ленінскага камсамола Беларусі.

З наступнага года пачнецца рэканструкцыя будынка, і з часам жыхары Брэста змогуць прыйсці ў новы тэатр з глядзельнай залай на 600 месцаў, адпачыць у светлых, прасторных фае, убачыць экспазіцыю, дзе будзе адлюстравана гісторыя станаўлення тэатра.

**Святаслаў КРЫЦКІ.**

**НА ЗДЫМКАХ: сучасны будынак драматычнага тэатра ў Брэсце; такой стане глядзельная зала пасля рэканструкцыі; народны артыст БССР Анатоль ЛОГІНАЎ; маладыя акцёры тэатра Аляксандр ГАМАНЮК і Таццяна КАВАЛЕЎСКАЯ.**

**Фота аўтара.**






# II. ГОРАД ЭНЕРГЕТЫКАЎ

**Любімае месца адпачынку жыхароў Навалукомля — Палац культуры энергетыкаў. Вольны час тут праводзяць і дарослыя, і дзеці. Моладзь аддае перавагу кінавечарам, дыскатэцы. Аматары шахмат стварылі тут свой клуб. Арганізаваны ў Палацы і разнастайныя калектывы мастацкай самадзейнасці: 14 дарослых і 11 дзіцячых. У іх займаецца больш за тысячу чалавек. Асаблівай папулярнасцю карыстаюцца выступленні дзіцячага ўзорнага танцавальнага ансамбля «Светлячок». Калектыў гэты быў лаўрэатам усесаюзнага конкурсу, пабываў з канцэртамі ў многіх гарадах Віцебшчыны. А цяпер юныя артысты рыхтуюцца да паездкі ў Германскую Дэмакратычную Рэспубліку.**

**Добрую матэрыяльную базу мае і гарадскі спорткомплекс. Тут створаны валейбольная, баскетбольная секцыі, секцыі гімнастыкі, цяжкай атлетыкі і іншыя. Спартсмены-аматары з Навалукомля паспяхова выступаюць на спаборніцтвах рознага рангу.**

**Так што ў жыхароў Навалукомля няма праблемы, чым заняць сябе ў вольны час. Выбар даволі шырокі, нягледзячы на тое, што знаходзіцца горад удалечыні ад буйных культурных цэнтраў.**

**У гэтым пяцігоддзі сацыяльна-культурная сфера горада атрымае далейшае развіццё. Аперажальнымі тэмпамі будзе весціся жыллёвае будаўніцтва, бо за апошнія гады насельніцтва Навалукомля значна павялічылася і працягвае расці хуткімі тэмпамі, што наогул уласціва маладым гарадам нашай рэспублікі. Тут адкрыюцца таксама новыя школы, дзіцячыя сады, аб'екты аховы здароўя, службы быту, спорту і адпачынку.**

**НА ЗДЫМКАХ: на трэніроўцы ў гарадскім спартыўным комплексе; выступае дзіцячы танцавальны ансамбль «Светлячок»; у шахматным клубе.**

**Фота М. АМЕЛЬЧАНКІ.**



*ЦІКАВА ВЕДАЦЬ*

## НА ЗДЫМКАХ—ГІСТОРЫЯ МОТАЛЯ

Жыхар Моталя Аляксей Мінюк можа і сам не ўсведамляў, што сваім фотаапаратам натаваў хроніку роднай вёскі. Ён проста здымаў сваіх сяброў, знаёмых, сцэнкі мясцовага жыцця, сялянскую працу. Авалодаў майстэрствам фотасправы Мінюк яшчэ да вайны, а ўсе негатывы старанна ўпакоўваў, зберагаў. Сам Аляксей Андрэевіч памёр некалькі гадоў назад, але плён яго работы захаваўся. Архіў фотамайстра знайшлі выпадкова. Ён, можа, і загінуў бы нікім не заўважаны, калі б жонка Мінюка Соф'я не расказала аб гэтым суседзям. Вестка дайшла да сакратара партыйнай арганізацыі мясцовага калгаса «40 гадоў Кастрычніка» Пятра Пташыца. Гэты чалавек шмат гадоў збірае дакументы аб гісторыі роднай вёскі і таму адразу зацікавіўся архівам фотамайстра.

Пётр Паўлавіч вачам не паверыў, калі Соф'я Мінюк паказала негатывы. Сотні кадраў збераглі і данеслі да нашага часу вобразы людзей, якія стаялі ля вытокаў цяперашняга калгаса-мільянера. А ўсяго ў архіве аказалася больш за чатыры тысячы негатываў.

Разглядаю здымкі. Хутка яны зоймуць дастойнае месца ў калгасным музеі, а негатывы — у яго запасных фондах. Цікава вярнуцца на паўстагоддзя назад, паглядзець на тыя славутыя паўкажушкі, саматканыя світкі. А на гэтым фота — сплаў лесу. Я, напрыклад, і не здагадваўся, што па Ясельдзе калісьці плылі плыты з бярвенняў. Пётр Паўлавіч адразу ўдакладняе: па 4 тысячы кубаметраў лесу штогод сплаўлялася з Моталя.

Пташыц раскладвае на стале цэлую галерэю партрэтаў лепшых працаўнікоў мясцовага калгаса першых пасляваенных гадоў. Некаторых ужо няма ў жывых, а здымкі іх, дзякуючы дбайнаму фотамайстру, папоўняць экспазіцыю музея. Пётр Паўлавіч называе імёны. Ён добра ведае гэтых людзей, працаваў з імі. Тут і былыя брыгадзіры Даніла Лукашэвіч, Іван Хала, Міхаіл Пракаповіч, звеннявыя па льну Марыя Мацукевіч, Ганна Данілевіч, дзесяткі іншых слаўных калгаснікаў, якія пачыналі будаўніцтва першай калектыўнай гаспадаркі.

Цікава будзе паглядзець цяперашняй моладзі і на тое, як апраналіся іх аднагодкі ў саракавых гадах, як працавалі, жылі, як гулялі вяселлі, басанож хадзілі ў клуб і на танцы.

Цяпер у раёне, бадай, кожны ведае аб подзвігу, які здзейснілі ў гады Вялікай Айчыннай вайны на тэрыторыі Чэхаславакіі браты Сцяпан і Пётр Міховічы, жыхары Моталя. Смерцю герояў загінулі яны за вызваленне брацкага народа. Здымкаў іх амаль не захавалася. А вось у архіве Аляксея Мінюка знайшлося фота Сцяпана Міховіча з сябрамі. Зроблена яно ў 1940 годзе.

**Васіль ЖУШМА.**

# ПАЙШОЎ НЕПЕРАМОЖАНЫМ

**(Заканчэнне. Пачатак на 4-й стар.).**

— Я не збіраўся быць барцом. Больш таго, аддаваў у маладосці перавагу футболу, баскетболу, лыжам... Неяк паспрабаваў на беразе рэчкі «павалтузіцца» са сваімі сябрамі, якія ў секцыю барацьбы хадзілі. Усіх паклаў на лапаткі. Хлопцы і ўгаварылі пайсці ў секцыю...

Але супраць гэтага выступіў бацька. Навошта, кажа, сілу на іншых паказваць. Ты лепш ідзі пні выкарчоўваць (а бацька працаваў на Кіеўшчыне леснікам), траву касіць. А як жа, і выкарчоўваў, і траву касіў, і поле араў... Калі ж мой брат Пётр стаў чэмпіёнам Савецкага Саюза, а пасля і ў мяне справы пайшлі на дыване нядрэнна, то бацька змяніў свае погляды. Ганарыўся нават сынамі...

Так што лічыце першым выхадам маім той выпадак з сябрамі ля рэчкі.

А калі больш сур'ёзна, то сваімі поспехамі я абавязаны Беларусі, дзе жыву ўжо доўгі час. У дзевятнаццаць гадоў я прыехаў сюды. Тут мяне заўважылі трэнеры Іван Беркаль, Іван Кацагуб, Аляксей Куцэнка, Павел Грыгор'еў, Баляслаў Рыбалка. Кожны даў мне нешта каштоўнае. Менавіта ім я абавязаны сваімі поспехамі. Спачатку на першынстве рэспублікі, пасля — краіны і, нарэшце, на турнірах і чэмпіянатах больш высокага рангу...

— І за мяжой, і дома вы прызнавалі толькі справядлівую [illegible]ацьбу, па правілах. Свед[illegible]не таму — узнагароды Міжнароднага алімпійскага камітэта (сярэбраны Алімпійскі ордэн) і ЮНЕСКО (міжнародны прыз «За высакароднасць у спорце»). Прыклада[illegible]справядлівай барацьбы [illegible] ваш паядынак з вядомы[illegible] іранцам Галамам Рэза Тахці. Што адбылося?

— У адной з нашых сустрэч я захапіў нагу іранца і збіраўся правесці прыём. І тут заўважыў, што твар Тахці скрывіўся ад болю. Я ўмомант выпусціў яго хворую нагу. Гэта не засталося незаўважаным...

— У нашай гутарцы, Аляксандр Васільевіч, вы вельмі часта з павагай гаворыце аб сваіх былых саперніках: Дзітрыху, Дураліеве, Тэйлары, Тахці і іншых. Як склаўся іх лёс? Ці падтрымліваеце вы з імі сувязі?

— Усе яны пайшлі з вялікага спорту адначасова са мной. З аднымі я сустракаюся на спаборніцтвах рознага рангу ў якасці суддзі, з другімі — перапісваюся, у трэціх нават бываю ў гасцях.

Вельмі шкадую Тэйлара і Тахці. Буду памятаць аб іх усё жыццё. Лёс славутых спартсменаў склаўся трагічна.

— Калі гутарка зайшла аб лёсах, то і нашым суайчыннікам за мяжой, і тым больш саперніка́м, з якімі вы даўно не сустракаліся і якія маюць магчымасць чытаць нашу газету «Голас Радзімы», будзе цікава даведацца, чым вы, Аляксандр Васільевіч, займаецеся сёння.

— Афіцыйная пасада — загадчык міжвузаўскай кафедры спорту БССР. Рыхтую спартсменаў. І не толькі іх. Згадзіцеся, што не кожны чалавек можа стаць чэмпіёнам. Перабудова, якая ідзе зараз па краіне, закранула і нас, педагогаў. Што было раней у нашых інстытутах? Перспектыўны студэнт, можа ў будучыні стаць выдатным спартсменам — уся ўвага яму. А астатнія? З імі сур'ёзна не займаліся, яны як бы выходзілі з-пад увагі трэнераў. Зараз з моладдзю мы будуем работу па-іншаму. Пытанне стаіць так: кожны студэнт абавязкова павінен займацца фізкультурай, быць здаровым, гарманічна развітым. У сувязі з гэтым мы, педагогі, дамагліся, каб спартыўныя залы рэспублікі працавалі з максімальнай нагрузкай.

Калі гаварыць пра іншы бок маёй працы, то працягваю бываць на многіх буйных спаборніцтвах і ў нас, і за мяжой. Быў, напрыклад, суддзёй на Алімпіядзе-80. Рыхтую членаў маладзёжнай зборнай каманды БССР і краіны па вольнай барацьбе...

— І рыхтуеце нядрэнна. На апошнім розыгрышы Кубка свету ў Канадзе наша каманда стала пераможцай. А яшчэ прыемна, што ў гэтай зборнай вызначыўся Аляксей Мядзведзь, ваш сын. Ці ж цяжка быць трэнерам сына?

— Алёша — добры вучань. Я, як трэнер, ім задаволены. Стараецца пераняць ва ўсім мой вопыт, прыслухоўвацца да маіх парад. Мяркую, што выйдзе з яго добры спартсмен. Зараз рыхтуецца да чэмпіянату СССР сярод дарослых. Час пакажа, на што ён здольны... Ва ўсякім разе не буду пярэчыць, калі перасягне бацьку.

... Кожны год у гонар Аляксандра Мядзведзя праводзіцца турнір па вольнай барацьбе. Міжнародная федэрацыя ўключыла гэтыя спаборніцтвы ў лік афіцыйных. Праслаўлены спартсмен сам уручае прызы пераможцам. Кажуць, у Аляксандра Мядзведзя «лёгкая рука». Ён нібыта благаслаўляе барца на будучыя перамогі. Вера — надзейны памочнік спартсмена. Без яе нельга дамагчыся вялікага поспеху.

Гэта не мае словы, а словы Аляксандра Васільевіча, якому сёлета спаўняецца пяцьдзесят гадоў. На развітанне ён падзяліўся сваёй марай: «Хачу выхаваць алімпійскіх чэмпіёнаў. І дакажу ўсім, што на зямлі Беларусі яны будуць».

Сказаў гэта цвёрда, з упэўненасцю. З той самай упэўненасцю, з якой некалі выходзіў на барцоўскі дыван і заўжды перамагаў...

**Яўген ТУРАЙКЕВІЧ.**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ**

## НАШ АДРАС:

**МІНСК-ГСП, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.**
**ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.**

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Зак. 615